Выходзіць у чацвертую пятніцу мясяца!

# Вэстэрос па-беларуску



9 771855 763006

299 пасля В.Э. | нумар 1 | чэрвень 2014 |

**Навінка!** Першы палітычна-разважальны часопіс Вэстэроса.

Як заручыны перараслі паўстаннем ў сталіцы?



8

Экспрэс-тур па Каралеўскай Гавані



14

Кулінарыя для “чайнікаў”: панскія дэсерты



16

**ЭКСКЛЮЗІЎ:** Дэйнэрыс Таргарыен абявілася ў Кварце

# Вэстэрос па-беларуску

## Чэрвень 2014


Ст. 6

### Паўстанне ў сталіцы!

На мінулым тыдні Каралеўская Гавань прыймала ганаровых гасцей з Дорна. Дарнійская дэлегацыя вяла перамовы з дзясніцай караля Цірыёнам Ланістэрам і каралевай-рэгентшай Сэрсэяй Ланістэр аб заручынах прынцэссы Мірцэлы Баратыён з дарнійскім прынцам Трыстанам. Калі малая каралеўская рада вырашыла аб будучым шлюбе Мірцэлы і Трыстана, і ў той жа час аб выхаванні ў Дорне, тутэйшае насельніцтва падняло антыманархічны бунт.


Ст. 8

### Новы абранец Семярых

Адным з наступстваў антыманархічнага паўстання ў сталіцы стала смерць Вярхоўнага Сэптона (Тлустага). Найбольш вядомыя рэлігійныя дзеячы з'язджаюцца ў Каралеўскую Гавань каб абраць новага Вярхоўнага Сэптона. Сёння мы даведаемся аб працэссе выбараў, аб самых прыярытэтных кандыдатах.


Ст. 18

### Шляхетны адпачынак

Як вам вядома, не кожны можа сабе дазволіць шыкоўны адпачынак падчас фінансавай і палітычнай крызы. Але не яны...
Нашы карэспандэнты малі цудоўную нагоду пагутарыць з самымі багатымі і самымі вядомымі панамі і панямі Сямі Каралеўстваў: Пецір Бэйліш, Тайвін Ланістэр ды Кейтылін Талі. Дзякуючы ім, мы даведаліся, што наша панства мае новую тэндэнцыю адпачынку: навошта ехаць за мяжу ці на мора, калі можна цудоўна правесці час і ў Вэстэросе.


Ст. 22

### Прынцэса-жабрачка аб'явілася!

Ад надзейных інфарматараў мы зноў знайшлі сляды прынцэссы ў выгнанні Дэйнэрыс Таргарыен! Першыя чуткі пра яе з'явіліся яшчэ ў мінулым годзе: казалі што яна пабралася шлюбам з датракійскім князем Кхалам Дрога. Сёння ж марскія вандроўнікі ды піраты зноў сцвярджаюць, што Дэйнэрыс аб'явілася. Па новых чутках яна знаходзіцца ў Кварце са сваім кхаласарам ды цмокамі! Нашы агенту ў Кварце падцвердзілі гэтую інфармацыю.

# Анонс

4 Гарады сусвету
6 Падзеі
8 Рэлігійнае жыццё
10 Навіны за месяц
11 Рэклама ды аб’явы
12 Нашы гарады
14 Кулінарыя
16 Стыль жыцця
18 Сенсацыі
20 Напаследак



Пэйдж
Галоўны рэдактар

# Прадмова

І сапраўды, панове, у дзіўны час жывема! Толькі ўчора, здаецца, усё было ціха і мірна, а сёння ўжо бог ведае што: то вайна, то мор, то неўраджай дзесьці; а то, вунь, паненка ўбралася так, нібы ля шашы гандляваць будзе; а вось тыя ажаніцца надумалі. І як жа нам даведацца пра ўсё, калі жывем у такой вялікай краіне?!
Менавіта для гэтага мы і вырашылі стварыць часопіс, са старонак якога вы даведаецеся аб апошніх навінах Вэстэроса непасрэдна з месца дзеяння. Будзем спадзявацца, што мы вас зацікавілі!

## Вэстэрос па-беларуску

**Галоўны рэдактар:**
Пэйдж Холівэл

**Выдавец:**
“Суполка беларускамоўных пісьменнікаў”

**Адрас рэдакцыі:**
Штаб-кватэра: Вэстэрос, Каралеўская Гавань, плошча Джэйхерыса, 31.

Філія: Вэстэрос, Прастор, г. Старамест, вул. Рамесны Тракт, 67.

Замежная філія: Валантыс, плошча Трыярхаў, 149а.

**Афармленне:**
Студыя дызайну “Браавас медыя”

**Вэбсайт:**
www.vk.com/vesteros_pa_bielarusku

# Горад сотні астравоў

Браавас - адзін з дзевяці вольных гарадоў, самы буйны і магутны. Ён знаходзіцца на паўночна-заходнім ускрайку Эссаса, там, дзе зліваюцца Вузкае і Дрыготкае мора. Пад уладай Брааваса знаходзіцца так званае Браавасійскее ўзмор'е на поўнач ад Аксамітных раўнін, якія кантралююцца Пентасам. Заснаваны рабамі, уцекачамі з Валірыі, Браавас доўгі час заставаўся схаваным горадам, чыё месцазнаходжанне для навакольнага свету заставалася таямніцай на працягу стагоддзяў.

*"Дзевяць вольных гарадоў былі дачкамі Валірыі, Браавас жа бастард, уцякач з дома."*

Браавас размешчаны на невялікіх, але шматлікіх астраўках, званых «сотняй астравоў Брааваса». Горад не аточаны сценамі, акрамя натуральнай скальнай грады, якая адлучае лагуну ад мора; самі браавасцы кажуць, што іх сцены драўляныя і выфарбаваныя чырвонай фарбай - гэта іх баявыя караблі.

У Браавасе мала вольнага месца і няма дрэў, таму большасць мясцовых дамоў - каменныя, вузкія, у чатыры-пяць паверхаў, з чарапічнымі дахамі. Ні трысняговых, ні саламяных дахаў, звычайных для Вэстэроса, тут няма. Шматлікія дамы стаяць прама ў вадзе, так што каналы паміж астраўкамі ператвараюцца ў вадзяныя калідоры.

У адрозненне ад стаячай на ўзгорках Каралеўскай Гавані, Браавас амаль плоскі - усе яго выспы не нашмат ўзвышаюцца над морам. Затое вялікіх і высокіх будынкаў тут значна больш, чым у Каралеўскай Гавані.

**Па каналах Брааваса курсуюць гандолы ў выглядзе марскіх змей, з размаляванымі галовамі і уздзетымі хвастамі; весляры на іх, апранутыя ў плашчы някідкіх колераў - шэрыя, карычневыя, імшыста-зялёныя - варочаюць жардзінамі, а ня вёсламі. Для грузавых перавозак выкарыстоўваюцца вялікія пласкадонныя баржы, дзе ў кожнага борта стаяць па дваццаць чалавек з жардзінамі; часам на каналах можна сустрэць цэлыя плывучыя хаты з каляровымі ліхтарыкамі, аксамітнымі фіранкамі і меднымі статуямі.**



# Як заручыны абярнуліся паўстаннем?

**Усе ўжо мабыць чулі пра апошнія падзеі ў Каралеўскай Гавані, але не кожны чуў, чаму ўсё так здарылася. Фінансавая крыза, вайна з абяднанай арміяй Поўначы і Рачных земляў, паўстанне ў Штармавых землях і ў Прасторы, паўстанне Станіса Баратыёна, а цяпер яшчэ і паўстанне ў сталіцы? Што гэта: звычайнае супадзенне ці наступствы вышэйпералічанага?**



Заручыны прынцэсы Мірцэлы безумоўна сталі галоўнай падставай для свята ў сталіцы. Гэтая навіна кранула сэрцы і змусіла пусціць слязу нават самых чэрствых жанчын, не кажучы аб звычайных жыхарах Каралеўскай Гавані. Але сярод паноў кажуць, што шлюб палітычны, і хіба праз каханне дванаццацігадовыя дзяўчынкі бяруць шлюб?

- Наша палітычнае становішча зараз вельмі хісткае і саюз з Дорнам (які выказаў нейтралітэт) дапамог бы нам як матэрыяльна, так і маральна. - выказаўся дзясніца караля Цірыён Ланістэр.

І сапраўды - сітуацыя ў краіне зараз вельмі цяжкая: з-за даволі такі працяглага паўстання на Поўначы, Вэстэрос згубіў амаль што ўсю тэрыторыю Рачных земляў, якія былі асноўным пастаўшчыком правізіі ў сталіцу. Недахоп ежы і перанасяленне Каралеўскай Гавані ўцекачамі з Рачных земляў зрабілі сваю справу. Бандытызм вырас амаль што ўтрая, кошт ядомых прыпасаў таксама павялічыўся, а вось казна толькі памяншаецца...

Мабыць, усё гэта і вылілася ў тыя трагічныя падзеі, якія адбыліся на мінулым тыдні. Пасля праводзін прынцэсы Мірцэлы ў Дорн, каралеўская сям'я і шляхецкая дэлегацыя накіравалася ў палац і па дарозе стала аб'ектам кпінаў галадаючых гараджан. Кароль Джоффры Баратыён неабдумана загадаў гвардыі пакараць смерцю незадаволеных, што з'явілася прычынай бунту ўсяга горада.

- Калі мы накіравалася да Чырвонага замку, натоўп стаў здзекавацца з нас і выкрыкваць у адрас Джоффры зневажальныя фразы. - прадаўжае свой аповед пан Цірыён

- Апошняй кропляй для Джоффры стала тое, што ў яго кінулі каровіна лайно, і ён загадаў гвардыі «забіць іх усіх». Але Джоффры не ўлічыў тое, што колькасць гараджан значна перавышала ягоных абаронцаў, і вельмі хутка натоўп стаў атрымліваць верх. У гушчу натоўпу трапіў Вярхоўны Сэптон, якога літаральна разарвалі на часткі, адарваўшы адну руку за другой.

Паводле падлікаў лорда Варыса, страты склалі некалькі соцень чалавек сярод паўстанцаў і прыблізна тры дзесяткі забітых і параненых паноў. Акрамя таго, натоўп азвярэлых сялянскіх мужыкоў згвалтаваў па меншай меры семярых шляхетных паненак і не больш за адзінаццаць іх прыслужніц. Сярод згвалтаваных апынулася пані Лоліс з роду Стоквартаў. Яе сарвалі з сядла і згвалтавалі з паўсотні мужыкоў на задах майстэрні гарбара. Падаспелыя залатыя плашчы знайшлі яе голай, блукаючай па Свіному рынку. Пані Лоліс зараз знаходзіцца ў цяжкім псіхічным стане.

Амаль што цэлыя суткі трывалі баталіі ў Блышыным канцы, якія закончыліся не вельмі добра для "рэвалюцыянераў". Свае ж наступствы мела паўстанне і для шляхты: цяпер ніводны пан ці пані не выходзіць у горад без падвоенай ахароны. Паводле словаў архімэйстара Піцэля, паўстанне вельмі негатыўна паўплывала на здароўе каралевы Сэрсэі:

- Яе міласць зараз вельмі спалохана і чакае здрады адусюль. Гэтую параною узмацняе і віно, якое ўсё больш і больш п'е каралева.

У адрозненне ад грамадскай думкі, пан Цірыён бачыць у паўстанні правіну самой дзяржавы:

- Народ не вінаваты ў тым, што нямае ежы, адзення і сталай працы. У гэтым вінавата дзяржава, і ў нейкім сэнсе нават і я. Я прадбачваў такую сітуацыю, казаў аб магчымым паўстанні і Сэрсэе і Джоффры, але яны не слухалі мяне. Джоффры, наш юны кароль, мае вельмі дурное выхаванне, у чым асабіста я бачу правіну Сэрсэі. Ужо нельга нічога выправіць, таму мне, як дзясніцы, застаецца толькі папрасіць прабачэння ў народа за дзяржаву і за маяго пляменніка.

***Пэйдж Холівэл***

> Страты склалі некалькі соцень чалавек сярод паўстанцаў і прыблізна тры дзесяткі забітых і параненых паноў.



Прынцэса Мірцэла пакідае Каралеўскую Гавань



Каралева разам са сваім братам Цірыёнам на развітанні з дачкою



Бядняк з адарванай рукой Вярхоўнага Сэптона



Прынц Джоффры са сваёю нарачонаю - Сансай Старк



Жаўнеры дапамагаюць каралеве Сэрсэе уцекчы ад натоўпу



# Выбары Вярхоўнага Сэптона

**Наша рэлігія жыве па прынцыпу: памёр Вярхоўны Сэптон - жыве Вярхоўны Сэптон! Таму пасля сямідзённага траўру па старому сэптону, якога ў народзе ўжо празвалі тлустым, уся царкоўная вышка з'язджаецца ў Каралеўскую Гавань, каб абраць новага Вярхоўнага Сэптона! Цікава, хто ж стане новым агеньчыкам Семярых сярод штодзённага блуду?**

Падчас нядаўняга бунту ў Каралеўскай Гавані быў забіты Вярхоўны Сэптон. Безумоўна, гэта вялікая страта ўсяго веруючага сусвету, але смерць бязлітасна да нас, часам яна забірае найлепшых! - Я добра памятаю Яго Святасць. Ён быў прысадзісты, сівы і неверагодна тоўсты. Ён знаходзіўся на прыступках Сэпты Бэйлара, калі пакаралі смерцю Эддарда Старка, і быў узрушаны тым, што адбываецца. Ён адрозніваўся выключным здароўем і яшчэ большым шматслоўем. - расказвае нам Сэпта Маэла - служка Вярхоўнага Сэптона.

"Як бы нам цяжка не прыходзілася, на змену старым рэчам прыходзяць новыя, на змену старым знаёмым прыходзяць новыя, нарэшце, на змену зіме надыходзіць лета" - з казання Бэйлара Блаславёнага. Давайце адыдзем трохі ад смутка, жалобы, царкоўных казанняў, ды акунемся ў гісторыю рэлігіі і "інстытута Сэптонаў". Да заваявання Вэстэроса Эйганам І Заваёўнікам рэзідэнцыяй Вярхоўнага Сэптона была Зорная Сэпта ў Старамесце, менавіта там Эйган быў памазаны тагачасным Вярхоўным Сэптонам на цараванне як кароль Усяго Вэстэроса. Тагачасны Вярхоўны Септон сем дзён і сем начэй маліўся і пасціўся, перш чым прыняць сваё рашэнне: царква не павінна супрацьдзейнічаць Эйгану. Эйган зацвердзіў веру ў Семярых як афіцыйную рэлігію Сямі Каралеўстваў і перанёс рэзідэнцыю Вярхоўнага Сэптона у сваю новую сталіцу - Каралеўскую Гавань. Далейшыя царкоўныя рэформы, праведзеныя Мэйгарам Жорсткім і Джэйехерысам Міратворцам, моцна абмежавалі правы царквы і Вярхоўных Сэптонаў. Фармальна Вярхоўны Сэптон абіраецца царкоўнай Радай Веры, пры гэтым для абрання кандыдат павінен набраць не менш за пэўнай колькасці галасоў. На практыцы свецкія ўлады - кароль, рэгент або дзясніца - заўсёды могуць маніпуляваць Радай, пасадзіўшы ў якасці Вярхоўнага Сэптона свайго стаўленіка. Так, пабожны кароль Бэйлар Блаславёны (кіраваў 161-171) у свой час прызначыў Вярхоўным Сэптонам непісьменнага каменячоса, убачыўшы ў ім самога Каваля, а калі септона-каменячоса атруцілі - васьмігадовага хлопчыка, нібыта цудатворца.

Калі верыць чуткам, то ў гэты раз за сэптонскую тыяру, якую дарэчы згубілі падчас бунта, будуць змагацца тры кандыдатуры: сэптон Оллідор, сэптон Люцыон, і нейкі сэптон-стаўленнік дзясніцы Караля (імя не названа па

Фармальна Вярхоўны Сэптон абіраецца царкоўнай Радай Веры, пры гэтым для абрання кандыдат павінен набраць не менш за пэўнай колькасці галасоў.

Сэпта Бэйлара(від ззаду) - рэзідэнцыя Вярхоўнага Сэптона

палітычным меркаванням). Бітва за тыяру разгарнулася не на жарт. Па меркаванні архімэйстэра Піцэля, перамагчы павінен Оллідор, дзясніца ж спадзяваецца на перамогу свайго кандыдата. А покуль на выбары з’язджаюцца члены Рады Веры, на многіх будынках Каралеўскай Гавані з’яўляюцца такія вось карыкатуры!

**Цэрцэя з Хайгардэна**



Карыкатура з Каралеўскай Гавані

## Прафессія - Вярхоўны Сэптон

Вярхоўны Септон - галава Царквы Семярых, першасвятар. Яго рэзідэнцыяй з’яўляецца Вялікая Сэпта Бэйлара ў Каралеўскай Гавані.

Вярхоўны Септон не мае імені. Нават сэптоны, якія паходзяць з высакародных сямей і якія маюць прозвішча ад нараджэння, адмаўляюцца ад яе пры памазанні ў сэптоны, пакідаючы толькі першае імя. Калі ж адзін з іх становіцца Вярхоўным Сэптонам, ён пазбаўляецца і гэтага імя - на думку Царквы, Вярхоўны Сэптон ў імені не мае патрэбы, бо з’яўляецца жывым падабенствам Бога.

Вярхоўны Сэптон валодае найвышэйшай рэлігійнай уладай у каралеўстве - у кампетэнцыі Вярхоўнага Сэптона, напрыклад, блаславенне караля на цараванне. Вярхоўны Сэптон мае права дазваляць зарокі і клятвы людзей - напрыклад, вызваліць Мэйстара ад яго ланцуга, рыцара Каралеўскай Гвардыі ад яго абяцанняў ці ж скасаваць заключаны па ўсіх правілах шлюб, калі атрымаецца даказаць, што той не быў ажыццёўлены на шлюбным ложку. Вярхоўны Сэптон лічыцца прыкладам святасці і высокай духоўнасці - зрэшты, у выпадку многіх Вярхоўных Сэптонаў іх справы ідуць насуперак з гэтай выявай. Вярхоўны Сэптон носіць белае убранне і тыяру з вітога золата і крышталя, а таксама пярсцёнак на пальцы, які прадастаўляецца для пацалунку. Посах Вярхоўнага Сэптона выразаны з чардрэва і увенчаны крыштальнай сферай.

# Навіны Чэрвень 2014



## Трагічна загінуў прэтэндэнт на карону Рэнлі Баратыён!

На мінулым тыдні трагічна загінуў пры невысветленых абставінах прэтэндэнт на карону Вэстэроса Рэнлі Баратыён. Па адной з версій яго забіла Брыена Тарт - капітан ягонай гвардыі. Мы не бярэмся абвінавачваць пані Брыену, паколькі няма доказаў яе вінаватасці. Рэдакцыя выказвае шчырыя спачуванні яго ўдаве - пані Маргеры Цірэлл, ды ягонаму швагру - сіру Лорасу Цірэллу. Мы запомнілі пана Рэнлі як добрага, шчырага і сумленнага чалавека. Хай зямля яму будзе пухам, бо ноч цёмная і поўная жахаў!



## Станіс Баратыён вядзе свае войскі на сталіцу!

Прэтэндэнт на карону Вэстэроса, пан Станіс Баратыён (брат караля Роберта, і пана Рэнлі) накіраваў асноўныя сілы свайго войска на Каралеўскую Гавань.

- Я маю намер узяць сталіцу і спыніць праўленне ўзурпатара Джоффры, які з'яўляецца плёнам інцэсту паміж яго маці - Сэрсэей Ланістэр і яе братам Джэйме Царазабойцам Ланістэрам. - распавядае пан Станіс.

Нажаль, рэвалюцыйны рух Станіса не атрымаў шырокага распаўсюджання сярод простага люду з-за яго рэлігіі.



## Кароль Джоффры абяцаў насадзіць на дзіду галаву свайго дзядзькі!

У адной з публічных прамоваў, падчас каралеўскай аўдыенцыі, кароль Джоффры Баратыён паабяцаў насадзіць на дзіду галаву свайго дзядзькі Станіса, калі войска таго будзе разбіта.

Але за падлікам замежных экспертаў, армія Станіса ўтрая большая за армію Джоффры.

Каралева Сэрсэя даць каментарый адмовілася.

## УВАГА! УСЕАГУЛЬНАЯ МАБІЛІЗАЦЫЯ!!!

Малы каралеўскі савет папярэджвае жыхароў Каралеўскай Гавані і Каралеўскіх земляў аб усеагульнай мабілізацыі ў войска караля Джоффры і ў гарнізон сталіцы. Усе мужчыны ва ўзросце ад 14 да 75 павінны з'явіцца ўзброеннымі на плошчы ля Чырвонага Замка не пазней чым праз сем дзён, у сувязі з наступленнем варожых войск. За дэзертырства і нез'яўленне вас будзе чакаць максімальна жорсткае пакаранне, у выглядзе смяротнай казні!

# Розшук! Узброена і асабліва небяспечна!

Імям лорда Цірэлла, разшукваецца забойца караля Рэнлі Баратыёна - Брыена Тарт, вядомая таксама пад мянушкамі Тартская пані і Брыена Красуня - адзіная дачка і спадчынніца лорда Сэлвіна Тарта. Адметныя рысы: мужчынападобная постаць, грубыя рысы твару, надта шырокі рот, крывыя зубы, не аднойчы зламаны нос. Скура пакрыта вяснушкамі, саламяныя валасы, вялікія блакітныя вочы. Асабліва небяспечна! Аб месцазнаходжанні паведаміць у Хайгардэн.



# Храбрыя мужы Вэстэроса!

Начны Дазор памірае. Цяпер нас менш за тысячу. Шэсць соцень тут і дзве сотні У Змрочнай Вежы, яшчэ менш ва Усходнім Дазоры, і толькі трэць з іх можа выйсці на поле бою. Сцяна працягнулася на сотню ліг. Падумайце пра гэта! Калі прыйдуць ворагі, мы зможам выставіць толькі трох чалавек на кожную мілю Сцяны. Нам, як ніколі, патрэбна ваша дапамога! Дасылайце да нас вашых дзяцей ці ўнукаў, разбойнікаў і бандытаў, бастардаў і рабоў. Адсылайце іх ў Каралеўскую Гавань да інтэнданта з Начнога Дазору.



# Варажба, чары па партрэце, порча, сурокі.

Уладар Святла з вамі, мае дарагія. Я - Мелісандра Асшайская, агеньчык Р’глора ў змроку Семярых. Я нясу цяпло да людзей. Прапаную вам свае магічныя паслугі любой катэгорыі. Усё, што ад вас патрабуецца - адрэкція ад вашых ложных багоў ды прысягнуць Р’глору. Звязацца са мною можна пры дапамозе ворана (Адрас: Вэстэрос, Цмокаў Камень, для Мелісандры), ці праз вогнішча (развесці вогнішча, дадаць у полымя каплю сваёй крыві са словамі просьбы і фразай: “Бо ноч цёмная і поўная жахаў”)



# Хайгардэнская мануфактура малочных вырабаў прапануе:

Сярод буйных лугоў Прастору, пад цёплым і ласкавым Хайгардэнскім сонейкам, у вясёлай кампаніі сялянак-прыгажунь мы вырабляем наша масліца “Ружа Хайгардэна”. Акрамя масла, у наш асартымент уваходзяць больш за 20 відаў сыроў, твораг, вяршкі, ну і, канешне, свежаздоенае малачко! Наш рэкламны слоган: “Прыгажосць ды наша малако уратуе сусвет!!”



# Каралеўская гавань

**Хто з нас, будучы яшчэ дзецьмі, не марыў аб жыцці ў сталіцы? Мабыць, ніхто... Але чаму адны людзі так імкнуцца туды трапіць, а іншыя - тутэйшыя жыхары - адсюль з'ехаць? Так, жыццё ў сталіцы не такое казачнае, як нам падаецца, і можна сказаць, што за знешнім бляскам хаваецца бруднае нутро горада.**



Каралеўская Гавань - сталіца Сямі каралеўстваў, буйнейшы горад Вэстэроса. Ён знаходзіцца на ўсходнім узбярэжжы кантынента - у Каралеўскіх Землях, на паўночным беразе ракі Чарнаводнай. Калісьці менавіта на гэтым месцы высадзіўся з маленькім войскам і трыма цмокамі Эйган I Таргарыен. Маленькая драўляная крэпасць, пабудаваная каралём-заваёўнікам на пагорку над залівам, з цягам часу саступіла месца велічнаму Чырвонаму замку, адкуль, седзячы на Жалезным троне, каралі Вэстэроса кіруюць дзяржавай. Вакол замка з часам вырас велізарны, перанаселены і даволі кепска пахнучы горад з багатымі сядзібамі шляхты і бруднымі трушчобамі Блышынага канца, мноствам рынкаў, майстэрняў, карчмоў і бардэляў; ў сталічным порце стаяць караблі з усяго Вэстэроса, з вольных гарадоў і краін Усходу. Чарнаводная ў вусце - шырокая і глыбокая рака з хуткай плынню, якую мясцовыя жыхары называюць падступнай і здрадлівай. Дваццаць баявых караблёў могуць прайсці ў шэраг па рацэ міма сцен горада. Хоць з поўдня да горада падыходзіць некалькі важных шляхоў са сталым рухам, мастоў цераз Чарнаводную няма, толькі лодачныя пераправы. На ўсходзе заліў Чарнаводнай выходзіць у Вузкае мора. На поўдзень ад горада, за ракой, ляжыць Каралеўскі Лес - вялікі лясны масіў, які сыходзіць далёка на поўдзень і ўсход у Штармавыя Землі. Гэта каралеўскія паляўнічыя ўгоддзі, куды манархі могуць з'язджаць на некалькі дзён дзеля палявання; але там жа хаваюцца разбойнікі і браканьеры; калісьці там жыла славутая банда - Братэрства Каралеўскага Леса. Да горада вядуць некалькі буйных гасцінцаў: Каралеўскі Тракт, які ідзе

## Тут стваралась гісторыя!



Адным з найбольш прываблівых месцаў Каралеўскай Гавані з'яўляецца Чырвоны Замак - каралеўская рэзідэнцыя. Замак быў пабудаваны каралём Эйганам пасля ягонай высадкі. Вакол замка сяліліся людзі, а пазней іх сялібы абнеслі моцнымі мурамі. Менавіта так і была заснавана Каралеўская Гавань. Пасля заваявання Таргарыенамі Сямі Каралеўств, горад стаў сталіцай. З Чырвонага Замка распачаліся рэформы Мэйгара, грамадзянская вайна (вядомая зараз як "Скокі Цмока"); тут жа скончылася паўстанне Баратыёна.

## Сталіца сэкс-турызму



Не ўсе, аднак, наведваюць Каралеўскую Гавань, каб паглядзець яго цудоўную архітэктуру. Сярод паноў (як нашых, так і замежных) горад ужо даўно называюць другім Лісам, сталіцаю сэкс-турызму. Каралеўская Гавань налічвае больш за сотню бардэляў. Гэтыя заклады адрозніваюцца між сабой толькі коштам паслуг і паслугамі. Па чутках, у некаторых з іх дзеля пажаданняў кліента ідуць нават на злачынства! Сярод паслуг аднаго з закладаў ёсць, напрыклад, як каханне з жанчынамі і мужчынамі, так і з жывёламі!

са Штармавых Земляў, і злучаючаяся з ім Дарога Руж падыходзяць да Чарнаводнай з поўдня, а к поўначы ад горада працягваецца, сыходзячы ў Рачныя Зямлі і далей на Поўнач, да Вінтэрфэла і Сцяны. Залатая дарога, што вядзе ў Заходнія Землі, да Ланіспорту і Уцёсу Кастэрлі, ідзе ад горада на захад. Горад, збудаваны на паўночным беразе ракі, размешчаны на трох пагорках, якія па сённяшні дзень носяць імёны самога Эйгана і двух яго сясцёр: пагорак Эйгана, пагорак Вісены і пагорак Рэйніс. Сямівежавы Чырвоны Замак - каралеўская рэзідэнцыя - знаходзіцца на самым высокім з трох пагоркаў - пагорку Эйгана ва ўсходняй частцы горада. Унутры замак аблытаны сеткай таемных праходаў і тунэляў, некаторыя з якіх выходзяць у горад. На пагорку Вісены ў паўднёва-ўсходняй частцы горада знаходзіцца галоўны храм краіны, прысвечаны Семярым - Вялікая Сэпта Бэйлара. У яго таксама сем «крыштальных» вежаў-званіц, якія можна ўбачыць здалёк. Трэці пагорак - пагорак Рэйніс - займае велізарнае, закопчанае і часткова абвалены будынак Драконава Гнязда: у мінулым, калі вогнедышныя цмокі Таргарыенаў яшчэ не вымерлі, іх трымалі ў гэтым будынку. Бліз паднoжжа пагорка Рэйніс знаходзяцца самыя бедныя, трушчобныя кварталы горада - Блышыны Канец; яго вузкія вуліцы незамошчаны, а хаты стаяць так блізка, што амаль дакранаюцца адзін аднаго. Акрамя больш-менш шырокай Мучной вуліцы, гэты раён ўяўляе сабой лабірынт крывых завулкаў і папярочных вуліц; з-за шматлікіх свінарнікаў, стойлаў і бровараў тут стаіць пастаянны смурод. На другім баку ўзгорка Рэйніс, паблізу паўночных Старых варот, наадварот, знаходзяцца самыя прэстыжныя і багатыя раёны, дзе жыве шляхта. Не менш вядомыя гарадскія бардэлі і квартал Пірамантаў. У гарадской сцяне, якая акружае горад па перыметры, ёсць сем варот: Цмокавы, Ільвіныя, Старыя, Рачныя, Божыя, Каралеўскія, Жалезныя. Рачныя вароты, у народзе вядомыя як Брудныя, выходзяць да порта: тут знаходзіцца каля сотні прычалаў, дзе разгружаюцца ў асноўным гандлёвыя судны, якія прыйшлі па рацэ з глыбіні кантынента, так і што прыйшлі з іншых частак краіны і іншых краін. Паміж прычаламі і гарадской сцяной размешчаны велізарны рыбны рынак, перацякаючы ў чарговы трушчобны квартал з самаробных хацін. На паўднёва-захад ад горада, адразу за Каралеўскімі варотамі і цытадэльнай сцяной, знаходзіцца турнірнае поле.

**Пэйдж Холівэл**



## На закупы!



Акрамя сваіх гісторыка-культурных каштоўнасцей, Каралеўская Гавань мае і самыя буйныя рынкі краіны. Некалькі разоў на год тут адбываюцца кірмашы. На сталічных рынках заўсёды можна пабачыць замежных гандляроў, дарнійскіх і борскіх вінаробаў, пенташыйскіх шаўцоў. Самыя прывабныя цэны чакаюць вас на Рыначнай плошчы, вінным рынку ды ў крамах Блышынага канца. Калі збіраецеся паехаць на закупы ў Каралеўскую Гавань, то будзьце абярэжны, бо з-за вайны на дарогах шмат бандытаў.

## Паломніцтва ў сталіцу



Найбольш набожныя людзі наведваюць Каралеўскую Гавань дзеля паломніцтва. Паглядзець на Вялікую Сэпту, дакрануцца да мошчаў святога Бэйлара, узнесьці сяміднеўную малітву і хоць здалёк ды ненадоўга пабачыць Вярхоўнага сэптона - мара кожнага веруючага чалавека. У апошні час, з-за вайны, паломнікаў стала нашмат больш, але жыхары сталіцы, здаецца, страцілі веру ў Семярых...

Паломніцкія туры ў сталіцу вельмі танныя, таму і маюць спрос сярод простых людзей.

# Панскія дэсерты, заморскае печыва

**Прапаную вам тры вэстэросскіх рэцэпта, без якіх не абыходзіцца не адно лета: марожаныя чарніцы ў салодкім крэме (такія ядуць на Поўначы), ледзяное малако з мёдам (традыцыйны летні напой з Каралеўскай Гавані), ды лімоннае печыва (тое самае, што любіць Санса Старк - нарачоная караля).**

## Марожаныя чарніцы ў салодкім крэме

Сучасны варыянт гэтай стравы саладзей і далікатней старадаўняга. Крэм можа стаць як асвяжаючым дэсертам, так і раскошным сняданкам. Вам спатрэбіцца:

2 шклянкі замарожаных чарніц
1 шклянка вяршкоў для ўзбівання
½ шклянкі цукру
5 яечных жаўткоў
1 ч. л. экстракта ванілі
міска з халоднай вадой

Злучыце вяршкі з паловай цукру ў каструлі сярэдняга памеру, давядзіце амаль да кіпення, але не кіпяціце! Зніміце з агню. Узбіце міксерам яечныя жаўткі і пакінуты цукар. Дадайце ваніль. Узбівайце яшчэ хвіліну, а затым вельмі павольна (!) пачніце падліваць па краі міскі сметанковую сумесь - а затым змешвайце хутка, каб яйкі не згарнуліся. Затым пераліце крэм у ёмістасць, якую можна будзе змясціць у крыху большую каструлю на вадзяную баню. Разагрэйце ваду ў каструлі на слабым агні, усталюйце ёмістасць з крэмам і праграва йце, памешваючы, да лёгкага загусцення, прыкладна 10 хвілін. Пагрузіце дно ёмістасці з крэмам ў ледзяную ваду, каб спыніць далейшае прыгатаванне. Перамешвайце крэм 5 хвілін, каб астудзіць, затым пераліце ў невялікі збан і пастаўце ў лядоўню. Для падачы на стол заліце замарожаныя ягады астуджаным салодкім крэмам.





# Лімоннае печыва

Гэтае лімоннае печыва трохі падобна на кексы. Яно адначасова простае і страшэнна спакуслівае. Дзякуючы элегантнай прастаце і ўмеранай саладосці яно ідэальна падыдзе да гарбаты на падвячорак - хоць у сталіцы Вялікага Княства, хоць у Каралеўскай Гавані.

2 ½ шклянкі мукі плюс яшчэ трохі пры неабходнасці
2 шклянкі цукру
6 ст. л. сметанковага масла (у цеста і для бляхі)
цёртая цэдра 2 лімонаў
1 яйка
2 ячных жаўтка
1/3 шклянкі цукровай пудры
1 ½ ч. л. малака

Разагрэйце духоўку да 175 ° C і змажце маслам вялікую бляху.
У глыбокай місцы злучыце муку і цукар. Дадайце масла і пасячыце сумесь, затым дадайце цэдру, цэлае яйка і жаўткі. Усё старанна змяшайце, падсыпаючы мукі пры неабходнасці, каб цеста не ліпнула і яму можна было лёгка надаць форму рукамі. Скруціце з цеста шарыкі памерам з грэцкі арэх і выкладзеце іх на бляху на адлегласці не менш за 5 см адзін ад аднаго, каб пры выпяканні яны маглі распаўзціся.
Выпякайце 15 хвілін, пакуль кексы не стануць румянымі зверху. Дайце астыць на працягу хвіліны, а затым перакладзеце на рашотку.
Змяшайце цукровую пудру з малаком да аднастайнасці.
Калі кексы астынуць,
паліце іх глазурай.

## Ледзяное малако з мёдам

Многія з нас лічаць, што малако з ільдом - гэта нешта ненатуральнае, але дадатак у выглядзе мёду ператварае яго ў новы напой. Ён прыемна асвяжае, а калі вы дададзіце спецыі, то можа выклікаць самыя экзатычныя адчуванні. У Каралеўскай Гавані падчас гарачага, душнага надвор'я яго трэба паспрабаваць абавязкова.

1 шклянка малака 1-1,5% тлушчу
2 ст. л. мёду або на смак
дробка молатага шафрана і / або карыцы (па жаданні)

Малако ўліце ў каструлю і прагрэйце на слабым агні. І блізка не даводзьце яго да кіпення! Калі над паверхняй пачне падымацца пар, дадайце мёд і размяшайце.

Пастаўце ахалоджвацца падсалоджанае малако ў лядоўню.



# Шляхетны адпачынак

Як вам вядома, не кожны можа сабе дазволіць шыкоўны адпачынак падчас фінансавай і палітычнай крызы. Але не яны... Наша панства мае новую тэндэнцыю адпачынку: навошта ехаць за мяжу ці на мора, калі можна цудоўна правесці час і ў Вэстэросе.

Колькі цудовых мясцін ёсць у Сямі Каралеўствах! Тут кожны знойдзе нешта сваё: і гістарычныя помнікі, і цуды прыроды, і сонечныя пляжы. Мы прывядзем кароткую інфармацыю аб самых шляхетных месцах адпачынку.

**5 месца – Рачныя Землі.** Не вельмі папулярнае месца з-за вайны. Рачныя Землі знаходзяцца ў самым сэрцы краіны: яны мяжуюць з Поўначчу, Заходнімі Землямі, Далінай, Каралеўскімі Землямі і Прасторам; акрамя таго, Рачныя Землі маюць выхад у Заліў Жалезных Людзей і заліў Скіўцы, і іх берага ў мінулым падвяргаліся частым набегам піратаў.

**4 месца – Даліна Аррын.** Высокія Месяцовыя горы аддзяляюць багатую і ўрадлівую Даліну ад суседніх рэгіёнаў; высакагорнае Арлінае Гняздо, замак уладароў Даліны Аррынаў, лічыцца самым непрыступным замкам Вэстэроса. У Месяцовых гарах жывуць дзікія горцы, якія нікому не падпарадкоўваюцца і рабуюць падарожнікаў на вялікай дарозе. Чайкаградак з’яўляецца галоўным портам Даліны і адным з найбуйнейшых гарадоў Вэстэроса.

**3 Месца – Ланніспорт.** Буйнейшы горад Заходніх Земляў, і адзін з пяці найбуйнейшых гарадоў усяго Вэстэроса. Гэта значны марскі порт, трэці па памерах горад краіны, які саступае па насельніцтву толькі Каралеўскай Гавані і Стараместу. Размешчаны на поўдзень ад Уцёса Кастэрлі, радавога замка дома Ланістэраў, на беразе Заходняга мора.

**2 месца - Прастор.** Прастор - шырокая вобласць на паўднёвым-захадзе Вэстэроса, самы ўрадлівы і самы населены рэгіён краіны. Хоць Прастор і менш Поўначы, Гэта самае значнае з шасці паўднёвых каралеўстваў, і да заваёвы Вэстэроса Эйганам Таргарыенам яно было незалежнай дзяржавай пад уладай дынастыі Гарднэраў. Мяккі клімат і багацце ўрадлівых зямель робяць Прастор жытніцай Сямі Каралеўств.

**1 месца - Каралеўская Гавань.** Каралеўская Гавань - сталіца Сямі Каралеўстваў, буйнейшы горад Вэстэроса. Налічвае больш за пяцьсот тысяч насельніцтва. Рэзідэнцыя правячых манархаў.

**Цэрцэя з Хайгардэна**





# Куды вы адправіцеся на адпачынак?



## Пецір Бэйліш

33 гады, майстар над манетай

Ведаеце, я толькі што павярнуўся з рабочай вандроўкі ў Штармавыя Землі. Адпачынак гэта тое, што мне зараз патрэбна. У планах быў адпачынак на сваёй малой радзіме ў Даліне Аррын, а такаж, па магчымасці, наведванне маёй старой сяброўкі - Лізы Аррын. Даліна - самае спакойнае і гарманічнае месца ва ўсім Вэстэросе. Лепш толькі Тарт - сапфіравы востраў.



## Кэйтлін Таллі

34 гады, пані Вінтэрфэльская

А як вы мяне знайшлі? Я спадзявалася на ціхі, непрыкметны адпачынак у Рачных Землях, але і тут гэтыя папараццы! Ну ды ладна, я згодна на невялічкую размову. Мой адпачынак - вандроўка на сваю радзіму. Я збіраюся наведаць Рыверан і сустрэцца са сваім братам. Потым я працягну сваю вандроўку. Сярод гарадоў і замкаў, якія я збіраюся наведаць, ёсць Харрэнхол, Блізняты, Пенітры, Дзявочы Ставок ды іншыя.



## Тайвін Ланістэр

57 гадоў, пан Уцёса Кастэрлі

Усё маё жыццё - войны, войны, войны... У мяне ёсць жаданне правесці некаторы час разам з сям'ёй, у Каралеўскай Гавані. А інкалі узнікае жаданне выйсці за сцены горада, на прыроду, з сябрамі ды проста парыбаліць.



## Сэрсэя Ланістэр

33 гады, каралева-рэгент

Калі чалавек мае такую высокую пасаду, як я, то не можа быць і рэчы аб нейкім адпачынку. У адрозненне ад вас, я не пустаслоўем маюсь, а кірую дзяржавай. Што вам не зразумела з гэтых двух слоў?! Усё зразумела? Добра, тады можаце ісці і даймаць сваімі роспытамі іншых, майго брата (пр. рэд. - пра Цірыёна), напрыклад.

# Дэйнэрыс у Кварце!

**Зусім нядаўны да нас даходзілі чуткі аб тым, што апошнія з Таргарыенаў загінулі...
Але жыццё прыпадносіць свае сюрпрызы! Пасля страты свайго мужа - Кхала Дрога, яна знайшла новы сэнс жыцця: вандроўкі па свету, конныя шпацыры, дамашнія гадаванцы, барацьба за дэмакратыю. І вось цяпер яна з рэшткамі свайго кхаласару рушыць на ўсход. Мы паспрабуем даведацца пра будучыя планы "прынцэсы ў выгнанні"...**



Кварт - сонечны горад на марскім пабярэжжы, з цудоўным кліматам і невычэрпальнымі магчымасцямі (калі вы, канешне, не абы-хто, а заможны чалавек). Кварцийцы - светласкуры народ які апранаецца ў шоўк і тыгровае футра. Гэта высокаразвітыя, шляхетныя і спешчаныя людзі. Яны надзвычай багатыя, ні ў чым не ведаюць патрэбы і таму сумуюць. Плачуць часта і з вялікай лёгкасцю - гэта лічыцца прыкметай асвечанага чалавека. Квартам кіруюць Чыстакроўныя - нашчадкі старажытных каралёў. Яны камандуюць Грамадзянскай гвардыяй і флотам.

Але што робіць "прынцэсса" Вэстэроса ў Кварце? Адна з нашых спецыяльных карыспадэнтак замежнай філіі часопіса пераўтварылась, па нашаму заданню, ў звычайную квартыйскую жанчыну. І вось тыдзень таму яна выйшла на сувязь з Вэстэросам. Па яе данным, Дэйнэрыс Таргарыен падчас вандроўкі з кхаласарам мужа ў Лхазар пераўжыла вялікае гора: страта дзіцяці, гібель мужа, здрада кхаласара... Але ўсе гэтыя няшчасці прынеслі свае плады. Дэйнэрыс зараз разам з багацейшымі людзьмі сусвету, і... у яе тры дракона!
- Я заўсёды думала, што драконы - выдумка, казка, але калі бычыш іх сваімі вачыма - гэта зусім іншае! - кажа карэспандэнт. - Нажаль, я не мала магчымасці пагутарыць з ёю больш, але і так усё з'ясавала: Дэйнэрыс намерана пры дапамозе Кварта і іншых Вольных гарадоў сабраць войска, каб у хуткім часе павярнуць сабе бацькаў трон. Але не ўсе кварційцы падзяляюць яе погляды. Наколькі мне вядома, за час свайго перабывання ў Кварце, Дэйнэрыс спаліла

> **Дэйнэрыс намерана пры дапамозе Кварта і іншых Вольных гарадоў сабраць войска, каб у хуткім часе павярнуць сабе бацькаў трон.**

рэзідэнцыю калдуноў, аграбавала Ксара Ксаан Даксаса і наняла флот, якіпа чутках хутка адбудзе ў Асшай. Я зраблю ўсё магчымае, каб працягнуць інфармаваць вас аб вандроўцы "прынцэсы ў выгнанні".

**Пані Галіна Валантыйка**



Напаследак

НОВИНКА!

# ТИРОШИЙСКИЙ ВОСТОРГ

НОВЫЙ ДЕНЬ - НОВЫЙ ЦВЕТ!

#3
"Пламя
Р'Глора"

